Не грэбвалі табой і песняй —
З сабою землякі ўзялі.
А покуль недзе спіць залева,
Тайфун вятры ў мяхах вязе,—
Яны ўдваіх,
Адам і Ева,
Капаюць бульбу
ў тайзе...

*1965*

* * *

Ад<br>
        «не трэба, не трэба»<br>
Да<br>
        «святло патушы»,<br>
Як да сёмага неба,<br>
Як да шчырай душы,<br>
Як ад бліску маланкі<br>
Да абложных грымот...<br>
З верасовай палянкі<br>
Хмеліць вераснем мёд.<br>
Ліўнем стомленым стыну<br>
На захмарнай градзе...<br>
Прага смаглай пустыні,<br>
Спёка спелых грудзей.<br>
Толькі змроку густога<br>
Захмялелы мурог,<br>
Толькі светлая стома,<br>
Толькі месячка рог...<br>
Ціха досвітак глянуў —<br>
Стой, імгненне, замры!<br>
Не спяшайся, бяглянка,<br>
Мы адны на зямлі.<br>
Можа, дзень пачакае.<br>
Маладзік, пасвяці...<br>
Ноч бывае такая<br>
Толькі раз у жыцці...<br>
Знелюбелы, нямілы<br>
Дзень з-за мора ўстае.<br>
Мне б вякоў не хапіла<br>
Слухаць вочы твае...

*1965*

## ЛЕСНІЧОЎКА ВЭЛДЗІС

А над вясёлкай-восілкай,
Як баравая пчолка,
У ясеневай восені
Зблудзіла леснічоўка.

Галіны па-над сцежкамі
Па сажаню ў размаху.
У леснічоўкі ўсцешнае
Імя —
«Прагоніш смагу».

На тое воля восені
І залатой завеі,
Што Ручайком —
Авоціньшам
І гаспадар завецца.

Каля гасцей расчуленых
Ды каля песні ціхай
Плыве-плыве рачулкаю
Шчыруха-леснічыха.

А ручаінкай з возера
Іскрыцца леснічоўна,—
За ёю нашы позіркі,
Як Даўгаваю чоўны...

Тут студня знакамітая
І ўсім вада да смаку,
Ды болей акавітаю
Мы праганяем смагу...

Выходжу ў ноч спакойную,
Ваду знаходжу неяк.
На дне халоднай конаўкі
Травінка зелянее...

Падушкі ўзбіла белыя,
Жадала:

— Лабу накты![1]
Мне ж, як салдату бегламу,
Не спіцца доўга надта.

А леснічоўне хораша
На мурагу на вышках.
Мне ў хаце нешта горача.
Я зноў да студні выйшаў.

Сябе я пераконваю,
Тут нечая правіннасць:
Тры ў небе поўні-конаўкі,
На дне па тры травінкі...

Гайдалася—
          гайдалася
Вядро —
          і ў студню села.
Чаму ж не здагадалася
Паслаць і мне
                    на сене?..
Не яблынька лясовая —
Ты злая асачынка...
Мяне
          старымі совамі
Тры поўні асачыла.

Іду сабе бяссоннікам,
Не знаю сам кудою,
Сасоннікам, сасоннікам,
Палянкай маладою.

Дах туманоў залатаны
Змакрэлым, жоўтым лістам.
І просяць пеўні Латвіі
У неба дзень нямглісты.

Пацягваецца соладка
Дня маладога нахмур.

[1] Добрай ночы! (латыш.)

На золаку,
                        на золаку
Мурог трывожна пахне...

Да ясеневай восені
Я не забуду следу.
Налета да Авоціньша
Касіць мурог прыеду.

Я ж не такі няўдаліца,
Не зломкава насенне.
Няўжо не здагадаецца
Тады паслаць на сене?..

*1965*

## ПОРТ

Уладзівастоцкія нявесты
Сустрэнуць ветла і нявтла:
Ты не рыбак, не кітабой,
Праходзь спакойна, сам сабой;
Паплаваў досыць у «загранцы»,
Хай не хапаеш з неба зор,—
Пяшчотай позіркі ўзгарацца,
Ідзі на іх, як на касцёр.
Год палюляла
у Брыстолі —
Жаніх ужо зусім прыстойны.
Ці кітабой ты, ці рыбак,
Спяшайся заказаць «кабак» —
Тут рэстаран завецца так,
Прывыклі дзверы да атак —
Гуляй, рыбак,
куляй, рыбак,
Шыкуй,
шчырэй кладзі «на бак»!
Забудзь на час тугу кают,
Пуцінпым грошыкам — каюк!
...Упарта
познія
нявесты
Чакаюць
норда,
оста,
веста.
Усе вятры
з усіх шляхоў
Для іх прыносяць жаніхоў.
Не з карабля —
дык топай міма,
Хоць паравозам галасі.
...Глядзяць
зялёнымі вачыма,
Як незанятыя таксі...

*1966*

* * *

Чаканы міг спакою.
І — паварот ключа.
Світае у пакоі
Ад смуглага пляча.

Трывожнага дыхання
Трывожны сухавей,
Трывожныя ў тумане
Пагляды ласкавей...

Прачнулася світанне —
Пакінулі пакой
Пачэснымі сватамі
І цішыня й спакой.

Прыцішаныя крокі.
І — паварот ключа.
Нырае ў сон таропка
Маладзічок пляча...

*1966*

* * *

Нават вечнасці памяць светлая
Не змагла б прыгадаць,
калі
Прыбіла прыбоем Сусвету
Да выспачкі плоднай —
Да нашай Зямлі —
Тваё зярнятка галоднае,
Жыцця спрадвечнае Дрэва.
Але табе забывацца не трэба,
Што зелянееш ты
ад вясны да вясны
Чалавечымі пакаленнямі,
Што ў восень сваю яны,
Як лісты,
калісьці зялёныя,
Дол, пастылы да звону,
панікла
Укрываюць, каб ты не калела,
Каб не галела сукамі.
А прадвесне ўжо ніткі
На новае ўбранне табе сукае.

*1966*

* * *

**I**

Вочы твае
Нада мной узышлі
Сузор'ямі цішыні,
Сусветамі дабрыні,
Покуль ёсць яны —
Мне на зямлі
Светла,
            мама...

*10.VI.1966*

**II**

Цяжка запамінаю,
Як па-бацьку завуць
Маці друга.
Ці таму,
Што лішні раз
Хочацца вымавіць
Балючае
І жаданае слова:
мама?..

*11.V.1974*

* * *

Ад сівых гадоў,
ад дзядоў
Для мяне ашчаджона спадчына:
Песні жніўнай смутак удоў,
Мох зязюльчын,
гняздо курапатчына;
Сіні верас
і сіні дым,
Зоркі першай драбнюткая мачына,
Яры хмель
над ярам крутым,
Галубіная мова матчына.
Не згублю яе ў тлуме дарог,
Дзе маторам вясёла грукочацца,
Боязна мне ступаць на мурог —
Прытуліцца шчакою хочацца.
Хай мяне блаславяць у нябыт
Як свайго шалапутнага хрэсніка
І яго Яснавокасць
блакіт,
І яе Ласкавасць
бярэзінка...

*1967*

* * *

Паказала гай малады
І не хочаш мне адгукацца.
Як па першапутку сляды,
Па паляне лісты акацый.
Па паляне ходзяць лісты,
Па паляне ступае трывога.
Мы ўтраіх — восень, я і ты.
Пачакае да заўтра да рога!

Неспакойны заход ачах.
Не ад вечара стала золка.
Зазвінелі ў тваіх вачах
Цені дрэў і нясмелая зорка.

Ці не блізкія ўчуў халады,
Што пачаў маладзік заікацца.
І дрыжаць над намі сляды
Ацалелых лістоў акацыі.
Хай за Донам шумяць лясы.
Дзелім мы свой жаданы сорам.

...Пахлі вечарам валасы,
І падміргвалі грудзі зорам...

*1967*

## ЗАІНЕЛАЯ УШАЧЧЫНА

*Петрусю Броўку*

Што хукаеш, раніца, рукі пакрэплі?
Ачахлым вугаллем па бальшаку
Снег лёгка вызвоньвае. Крэкчацца грэблі
Смачна, як сваццi пасля першаку.

Аглухлі бары ад зімовай сумоты.
Кігіканне кнігаўкі сніць сенажаць.
Алешнік?
А можа, аленяў суметы
Прыспалі?
З'інелыя рогі дрыжаць.

Збляднелы, стаміўся ў набегах па бераг
Завеі ўчарашняй адчайны прыліў.
Дымяцца вярбіны на вогнішчах белых,
Нібыта іх заяц-бяляк падпаліў.

Як зарыва, ўспыхне на вуліцах белых
Міліцыянера барвовы твар.
Спавіты вяроўкамі, белы кубелак
На белых развалках вязуць на базар.

Валёнкі не грэюць.
Кажэрка злубела —
На торг сабіралася цётка да дня.
Хоць вочы заплюшчы —
так холадна-бела,
І белыя-белыя вейкі ў каня.

Пытаецца аб надзеле ў нядзелі,
Ці многа ёй выдзеляць сонца,
зямля.
На яблынях галкі азябла датлелі.
У чорных праталках бяроз аралля.

Базар не чакае —

пасёлку не спіцца,
Дзень ціха ступае сцяжынай глухой.
І ластавак гнёзды,
нібы рукавіцы
Забытыя, стынуць пад белай страхой.
Пад полазам белым,
з'інелай падковай
Галінкай азяблаю
крохне —
хрусь,
Як яблык,
крамянае
і хрупаткое
Слова
марознае:
«Беларусь».

*1968*

* * *

*Івану Бурсаву*

У лес прыціхлы
ноч уваходзіць зноў,
Вядзе за сабой страх паганскі і лесуноў.
Возера на прагаліне па вачах разане —
Ад зары гарачае,
дагарае на кожнай сасне.
П'яны ад багуну, ступаю за страхам услед.
Можна на момант забыцца
на свет
Далёкіх планет.
...Бары знікаюць,
уцякаюць вадзянікі.
Бабры ўцалелыя плачуць
ля перасохлай ракі.
У дубоў векавых адстае ад цела кара.
І поўня на небе стыне
апошняй слязой бабра.
Планета над прорвай сусвету
вісіць, як над студняй вядро,
Ад адчаю ядзернага
халадзее ядра нутро.
Я запаведнік зрабіў бы,
дзе б жылі вясновыя сны,
Вадзянікі і чэрці, русалкі і лесуны.
Нашчадкі некалі вернуцца
з самых далёкіх шляхоў,
Чыстыя ад пылу зямнога
і ад зямных грахоў,—
Ім будзе незразумела,
што такое зялёная цішыня,
Адкуль была ў сэрцах прапрадзедаў
наіўная дабрыня?..

*1968*

## СМЕРЦЬ ІГРУШЫНЫ

Упала з пагорка
галавою на захад,
і асірацела
                    роднае котлішча —
Верасовачка.
Патухла
майго маленства
                              зялёнае полымя.

Калі я ў калысцы плакаў,
прынёс яе з лесу бацька
і папрасіў,
                    каб шумела
                                        мне
                                                  ля акна.
Не стала хаты,
бацька дамоў не вярнуўся,
а яна
так і не зацвіла
                              ні разу.

Вартавала мае гняздо,
стамлёныя выраі
адпачывалі ў яе на плячы.

І толькі зусім нядаўна
наспытаў я першы гарчак
(не быў і ўепамін салодкі).
...Я так хацеў сёння
                              ўчуць яе шум.
Няма ігрушыны —
упала галавою на захад.
Жыта пажалі:
                    куды ні зірні —
іржышча,
сарамлівыя пчолкі,
нахрапісты свінакроп,
бяссмертнік (яго бабуля Маланння

звала хораша «цьмян»),
над галінамі некалькі каласкоў
(ледзь дакрануўся — пырснулі слёзы)
і засохлыя гарчакі.

Начлежнікі некалі
                    разводзілі вогнішча,
і не вытрымала сэрцавіна.

Здымаю шапку
перад патухлым
                                        полымем.
Адзін валун у латоцы
даляжыць да другога
                              ледавіка.
Калі ён і зазелянее,
дык толькі ад моху.

Бывай, ігрушына,
бывай,
          зялёнае полымя...

*1968*

**БАГАТАЯ КАМАРОЎКА**

У жонкі
ахвотна камандзіроўку
Бяру я ў нядзелю
на Камароўку.
Вароты склыгочуць.
Ні шуму, ні даўкі.
Яшчэ, заінелыя,
стынуць прылаўкі.
На іх дагараюць
пад стогн галубіны
І кропу прадвесне,
і прыпар рабіны.
Агонь языкаты у бочках жалезных.
Люблю, Камароўка,
тваю незалежнасць!
Тут з даўніх часоў
аддаецца даніна
Законна» павагі
рукам селяніна.
...Таргуюцца з дзядзькам,
гуркі паспытаўшы,
Манументальныя капітаншы.
Паважная дама,
На ўсмешкі скупая,
уважліва бульбіну калупае.
У чарзе неспакойнай
становіцца першай,
Забыла, што сніла сябе
міністэршай.
І лысыя двое,
былымі чынамі,
Стаяць за лабатымі качанамі.
На качарыжцы
дзяўчына так лоўка
Цану вызначае
хімічным алоўкам,
Нібы ў працвярэзніку
нумар па пятцы.

Чарга падыходзіць —
няма чаго пяцца.
Кавун нападоймішча —
хлопаюць хлопцы,
Ну, як пасля ванны малому
па попцы.
Старая мяняе
рубля каляжанцы.
Тавар свой расхвальваць
азербайджанцы.
Гранаты ляжаць сцежалела,
барвяна,
Нібы капшукі,
што грашыма напханы.
На Усходзе
нялёгкая праца ў мужчыны —
Не разагнеш над прылаўкамі спіны.
Успыхвае шалік
у негра на шыі
Агнём,
што на дрэве не датушылі.
...З Малдовай
іскрыстая дружба старая!
І я ў мітуслівым натоўпе
ныраю.
З дарогі знаёмай
нікуды не збочыш.
Густое, заспанае
цэдзіцца з бочак
Бычынай крывёю
віно маладое.
Хвала
вінаграднаму сырадою!
Манеты выслізгваюць
хітрай луской,
Кішэнь стала лёгкай,
а шклянка — цяжкою.
Каторая шклянка,
ніхто не пазнае,
Не выдасць ні бочка,
ні восень пазная.

Нясмачная бульба —
куплю ў магазіне.
Чаго баклажан
нос паказвае сіні?
Прапала кароўка —
навошта вяроўка?
Нашто мне авоська,
скажы, Камароўка?
...Праспект павузеў,
ды адбыта радоўка,
На сёння
закончана камандзіроўка!

*1968*

## НЯНЕЧКІ

За гарадской прапіскаю
Вы ідзяцё ў нянечкі.
Вас у пад'ездах ціскаюць,
Салдаты просяцца ўаначкі.

Вас на алейках сватаюць,
Кахаюць у сціхлых скверыках.
Смяюцца піжоны цыбатыя
З «произношения скверного».

Дзябёлыя вы, як пранікі.
Цвітуць вашы вочы лубінам.
Вясною, як бульбінкі раннія,
Насы кірпатыя лупяцца.

І песню, што жала, бабіла,
Ішла басаНож за баронамі,
Удовіны ночы бавіла, —
Ціха спяваеце, нібы забаронена...

*1968*

* * *

У звечарэлай цішыні
Паверыць снегу хрупаткому,
Глядзець на сонныя агні —
І не зайздросціць анікому.

Згадаць, нібы далёкі сон,
Слупоў здранцвелых перагуды,
Пагляд спагадлівых акон —
І не спяшацца анікуды.

Забыць згрызню турбот пустых,
Успомніць,
Што табе за трыццаць,
І шкадаваць,
Што гэты міг
Не зможа болей паўтарыцца.

*1968*

* * *

Свет захлынаўся ад святла.
Ступаў я ў твой гарачы след.
Была вясна,
І ты была.
Як снег, кіпеў вішнёвы цвет.

Не ведаў я ні звад,
Ні здрад.
Сузор'яў распазнаў сакрэт.
Твой смех звінеў,
Яснеў пагляд
Вясновы,
Як вішнёвы цвет...

Мой дзень асеніцца ў журбе.
Ліст зжоўклы — ў забыццё білет.
Гукаў вясну,
Гукаў цябе.
Як снег, апаў
Вішнёвы цвет...

*1969*

* * *

Раённыя аэрадромы —
Заложнікі неба пагоднага...
Паветраныя паромы
Надхмар'е злянела пагойдвае.

Высока ўзлятаюць стракозы —
З аэрафлотам дражняцца.
Пасуцца бязрогія козы —
Каровы малалітражпыя.

Раённыя аэрадромы.
Мокнуць спакойна дровы,
Запашаныя самой
Дыспетчарскай строгай
Зімой.

Дзядзька гасцей праводзіць,
Валачэ чамадан з «данінаю».
Пахне яблыкамі пад восень.
Зазімкамі — свежанінаю...

Кабета цярэбіць касынку
(Адразу не супакоішся),
Ляціць на хрэсьбіны к сыну,
Уніз пазірае з бояззю.

Воблакі, як успаміны...
Матор, як конік, пілікае...
...Самалёт з той паляны
Сына
Вёз на Зямлю Вялікую...

*1970*

* * *

*Валі*

Я твой нявольнік,
Твой прыгонны,
Я вольную ў цябе прашу.
Адчайнай радасці адхоны
Я снегам смеху спарушу.

Для іншых —
Вагі раўнавагі!
З вар'яцтвам,
Сэрца, парадні.
На паншчыне тваёй увагі
Гарбець абрыдла дзень пры дні.

Упартага чакання хвалі,
Прылівы міру ці вайны,
Мяне ўсяго спаласавалі
Твайго дакору цівуны.

Ці ж мне
Маліцца па старое,
Чакаць,
Каб толькі ён не знік,—
На небе здрадлівым настрою
Тваёй усмешкі маладзік?

Імчыце,
Вольнасці фургоны!
Лашак тугі траву скубе.
Я твой нявольнік ,
Твой прыгонны.
Нашто мне воля
Без цябе?!

*1970*

* * *

Навука рукае
Лаўсан і лён.
А шыбе па сэрцу —
Галінкі скробат.
У колбе
Зачынаецца эмбрыён...
Пакуль што
Яшчэ паслухмяны робат.
У лядоўнях пацее лёд.
Цёпла ад аралі.
Лысіны цёплых калод
Жывіца зрасіла.
Вар'яцее Клод,
Лётчык Ізралі,—
Хірасіма!

У мастакоў
Спалены кіламетры
Мастоў і масткоў.
А крытыкам трэба
Касмічная мерка.
Бунтуе Еўропа:
— Уцечка мазгоў! —
Амерыка.

Жмурыцца
Спелымі сотамі воск.
Босы бярэзнік
Да возера выбег.
А ў небе,
Нібыта планеты ўскрыты
Клубіцца
Атамны выбух...

*1971*

## ТРЫПЦІХ УШАЧЧЫНЫ

**1**

Пацягнуўся певень,
выгнуў зацёклую шыю і
таропка крыламі залапатаў.
Так разведняк
пасля бурнай начы ляпае
сябе па кішэнях,
спадзеючыся знайсці на піва.
Мнагажэнец і валацуга,
пявун галаву закінуў,
каб песняй, сівейшай
за туманы, уславіць
наложніц, і грэбнем
гарачым, як цыркуляркай,
неба распалавініў —
сонца з захмар'я выпала
костачкай пераспелага персіка...
Уласнага голасу
не можа наслухацца
певень, хваліцца,
што сонца вызваліў,
і сам сабе пляскае.
Ну што ж, няхай пацешыцца,
покуль ягоным крылом
прыпечак не замятуць
пасля таго, як засмажаць
яешню для госця...
Сінічка пасялілася ў садзе,
сінім званочкам звініць:
— Ці ты спіш, ці ты спіш?..
Уставай, уставай!..
Белы ручнік
перакідваю цераз плячо
і, як сват маладых,
вітаю:
Сонца і Раніцу.

**2**

Сені расчынены.

Стаю на парозе. Бяруся
рукой за вушак. Выхінаюся.
З гнязда пад страхой
вытыркнуўся падлётак.
Здзіўлена на мяне паглядзеў
вялізным,
спалоханым вокам.
Яшчэ імгненне —
пырхнуў,
у бульбенніку знік.
Вярнулася ластаўка
і пытае:
— Вы не бачылі, дзе мой
неслух?
Ды тут спахапілася:
— Даруйце,
вылецела
з галавы,
што па-ластаўчынаму
не разумееце...
Хацеў запярэчыць —
няма... паляцела...
Толькі гранёны келіх —
цвет гарбузоўніка — ціха
пазваньвае,
У ім прасвечваецца
калматы заклапочаны
чмель...

**3**

Якія толькі стагоддзі
цябе не хрысцілі
ў сваіх Дняпрах, а ты
язычнікам
так і застаўся,
Човен.
Каб сустрэліся пальцы ў малітве,
ты рукі выцягнуў перад
сабой,
славячы бога вады,
перш чым нырнуць у хвалі.

Стары паганец,
сцісні прасмоленыя далоні
і мяне напаі з прыгоршчаў...
Не пускаюць на волю.
Прыцуглены, ты мокрым носам
торкаешся ў крыссе зялёнага берага...

*1972*

## БЯРОЗА З ЛІСТАМ ГАВАРЫЛА...

*

Веюць ляскай
Вятры заходнія.
На яблыні майскай
Шпак заходзіцца.
Сплылі,
як крыўды,
Зялёныя крыгі.
Шпак
з асалодаю
Сушыць крылы.
Вяз зацвітае
Цветам спалоханым.
Дом на ўсе дзверы
Уздыхнуў
з палёгкаю.
Сцежка да кладак
Травой
пазначана.

...Дзень добры,
мама!
Паклон,
Ушаччына...

*

Што смуцен,
родны бор?
Даўно цябе не бачыў.
Ну, як твой смалазбор,
Падсочаны бядача?

А дзяцел хай дзяўбе,
Тут клопат невялікі —
Выслухвае цябе,
Як калгуць, для прылікі.

І захлынае дух
Малiннікам гарачым.

Мы зноў з табою ўдвух.
Цяпер мы болей бачым.

Да сівізны змала
Згадаў свае шляхі я.
І сочыцца смала
У набіркі глухія.

Цецеруку-царку
Хай такавішча сніцца.
А я згадаў царкву
І тую ашчадніцу.

Цяклі так медзякі,
Цяклі на адбудову.
Званы, нібы дзякі,
Пабомквалі часова.

Цякла смала,
Цякла
У набіркі нявінна.
Была царква,
Была,—
Засталіся руіны...

Ты нервы ўсе напні,
Як трэба перад сконам.
А потым
Будуць пні
Ахоўвацца законам!..

...Дакорам не крану,
Падзякай не зазначу,
Што дошак на труну
Для маці даў, зямляча.

Згарбела баразна.
Навек засмяглі губы.
Над ёй шуміць сасна —
Дачка твая, мой любы.

Ты з лёсам не хітрун,
Вяшчун зялёначубы,
Паменей ведай труп,
Часцей кладзіся ў зрубы!..

*

Падае,
Падае лісце...
Час — малады нігіліст.
І сам ападу калісьці,
Як пераспелы ліст.

Адсякае далоні
Клянам
Лістабой,
А калі нам
З табой
Сустрэцца там,
Дзе сустрэч няма,
Дзе не выгукнеш нават:
— Ма...
Мама,
Не скажаш
«Сынок»
Таксама.

...Без просу заходзіла
Восень у сені.
Я помню голас
Песні асенняй:
«Бяроза з лістам
Усю восень гаварыла:
— А мой лісточак,

А мой зялёненькі,
Ты ж мяне пакідаеш...
— Нябось, бяроза,
Нябось, белая,
Я к табе вясной буду,
З табою шумець буду,
Цябе зяляніць буду...»

...Сёння.
Было гэта ўсё
Калісьці...
...Падае лісце...

*

Прамень,
Гасподу займай!
Дзень саманасам падрос.
Сонца на лета,
Зіма —
На мароз.

Зімовы сонцазварот
Сонцу дае правы.
За справу бярэцца
Год...
Закасвае рукавы.

Рупіцца
Юны год,
Год без цябе другі.
Год
Маіх злых нягод,
Год
Спалынелай тугі.

Мама...
Пад сэрцам лядзень.
Мама...
Тугу не суроч.

Мне
Самы кароткі дзень.
Мне
Самая доўгая ноч...

*

У выдмах захмарных
Завея ведзьміцца.
Змрок выплывае,
Нібыта з нябыту,
І поўніць коўш
Вялікай Мядзведзіцы,
А коўш высока
Палярнай зоркай прыбіты.
Праз ноч усю доўга
Долу
Хіліцца
Коўш,
Каб выліцца
З вышыні
У мяккі кош
Досвіткавай цішыні.
Змрок агортвае
Магілу тваю
і маю душу.
Таю
Крыўду агорклую,—
Ніяк яе не задушу!
Змроку адчаю майго
Балюча карэць.
Накашшана так на вяку.
...А ў нашай хаце карэц
Вісеў на драўляным суку.
Мы чэрпалі
          з вядра нетаропка
Маладзічкоў ільдзінкі
Дзінькія
І зорак кроплі.
Ды болей
          карца няма ўжо,
І цвік драўляны зламаўся.
У студні памяці
Вада ўспамінаў
                    ледзіцца.
А коўш Вялікай Мядзведзіцы
Вісіць трывала —
Палярная зорка

Трымае...

*

Абнашчылася вясна
Дожджыкам млістым,
Свістам.
Шчадрэе вясны казна
Гоманам зялёналістым.

Дзумкае хрушч-нелюдзім.
Гром справіў
Зялёныя ксціны.
На ганку з мамай сядзім.
Зімовая ў мамы хусціна.

На ганках
Драмалі суботы.
А наш
Пераступалі турботы.
На людскіх
Гавелі нядзелі,
На нашым —
Зрэдчас сядзелі.
Дзумкае хрушч-нелюдзім.
Трывожна з мамай сядзім.

Кажа,
Не ўзняўшы воч,
Здаецца,
Сябе не чуе:
— А нехта ж
Першую ноч
На могільніку пачуе...

*

Спіць могільнік
У духаце.
Хто часты дождж разленіць?
У нагах матулі зацвіце
Разгублены ядленец.

Абначаваць на паплавах
Грамам за ціхай рэчкай.
І матылёк у галавах
Усхліппе
Кволай свечкай.

Касой зазвоніць сенакос,
Ад палыну прагорклай.
І жылкі сінія стракоз
Заб'юцца над пагоркам.
А восень дагарыць
Датла —
Чакай завейных чаіц.
Вачніца ўпалая дупла
Напоўніцца адчаем...

*

Шчодры голас твой
Чуў паўсюль я,
Баравін ушацкіх
Зязюля.

Што ж ты сёлета
Зычыш мала
У дзень нараджэння мамы?

Невяліка
Тваё вялічча.
Ты гадоў
Нават тых не злічыш,
Што забрала
Бяда-пабіруха,
Што адкрала
Чорная скруха.

А гадоў тых
Было замнога
Не за морамі,
Не за барамі.

Не схацела дзяліцца са мною,

Мама
Гора з сабой забрала.
Мама звала цябе
Кукулка...
Мякка сцелеш ты,
Спаць ёй мулка.

...Грабовы дошкі
Сціснулі ножкі...
Сырая зямля
На сэрца лягла...

Сляза гаручая
Пяску адчаю
Намые.
Песня сірочая
Не адчыніць
Дзверы нямыя:
Няма ў іх клямак.
І няма тых крамак,
Дзе прадаюць мамак...

Хатуль свайго смутку,
Болю
Забіраюць матулі
З сабою.
Нам яны пакідаюць
Свет белы,
Каб зязюлі гады
Нам
Лічылі.
Зямля наша пагарбела
Магіл хатулі
За плячыма...

*1973*

## АДАМУ МІЦКЕВІЧУ

*Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś*
*jak zdrowie...*
Adam Mickiewicz

Паэты нараджаюцца ў карчме,
Каб іх пасля
Аплаквалі саборы.
Выгнанніку
Не ў спіну вецер дзьме,—
Ён носіць
Край абражаны
З сабою.

Хмар вырай
Свіцязі слязу страсе,
Як пава з песні,
Што праз сад ляцела.
На саркафагу ружы,
У расе,
Паэту —
Не пыхлівасці злюцелай!

Маўчы, ўсыпальня каралёў...
Вякі
Прыціхлі
Над геральдыкай нямою.
Спытае нехта:
— Быў пароль які,
Калі пісаў паэт,—
Ojczyzno Moja?..

*1973*

## ХЛЕБ

Жыццю й жытлу дало аснову жыта.
Абжыты — значыць, каласіцца стэп.
Вязьмо — нібыта вечнаеці арбіта.
Завязваецца зерне не з хвалеб.
Дарога промнем коласа прабіта
Да зор праз небыццця настылы склеп.
Бярэцца працай з хлебароба мыта.
Біў на таку свой лоб спрадвеку цэп.

Калоссем горб абвіт, зямля спавіта.
Надзённы хлеб — патрэба ўсіх патрэб.
Гірсу не варта прасяваць праз сіта.
Ад сонца сейбіт слеп, ад золі крэп,
Каб з родных ніў на стол лёг самавіта
І думкі дніў, як праца, члены хлеб!

*1974*

## ВЫКЛАДЧЫЦЫ РОДНАЯ МОВЫ

Выкладчыцы роднай мовы,
Настаўніцы сельскіх школ,
На вас
І каровы,
І дровы,
Нагрузак няўдзячных
Падзол.

Падставіць гатовы
Плячо вы
Пад зруба вянец цяжкі.
Нясеце
Наказ Ільічовы
На мове вякоў
У вякі.

У кожнай хаціне —
Вы дома.
Жыццё ваша ўсё на вачах:
Любому вяскоўцу
Вядома,
Што ў печы ў вас,
Што на плячах.

Люстэрка?
Калі ў яго глянуць?
Клапоты,
Турботы
Штодня...
Каравыя рукі сялянак
І ўзнёслых вачэй чысціня...

*1974*

* * *

У зажураным садзе
п'юць сінічкі гарбату.
Звоняць лыжачкі
ў ценькія сценкі шклянак.
Зноў адзін пакідаю
матчыну хату,
Ганак самотны,
журботны рапак.
З утрапёным даверам
гляджу навакола:
Серп сагнуўся,
ржавее пагбаная міска...
Надпіс прыгадваецца
на браме касцёла:
«Ціха, Бог блізка...»

*1974*

* * *

У летняй песні
трава мяккая,
Вяснянцы хапае
шчымлівага жалю.
І ў цёмным лесе
мядзведзь рыкае,
Мядзведзь рыкае,
дзевак пужае.
Трубяць алені
ў шлюбным маленні,
І цецярук-лапатун балбоча.
А салавей на дзевятым калене
Зайшоўся,
плюшчачы ў стоме вочы.
Ды пушчу схавае
кончык указкі
На карце планеты,
зялёнай калісьці,—
Мядзведзь і алень
падаліся ў казкі,
Птушкі і песні
не ўсе звяліся...
Век атамны,
маеш усё на прыкмеце.
Табе даволі
зялёных пошлін.
Няўжо чалавек
панясе па планеце
Свой голас,
як вугалёк апошні?!.

*1971*

## АНДРЭЮ ВАЗНЯСЕНСКАМУ

Беларусь захлынула й цябе,
Як замова,
Вяснова й зімова.
Слухай жа:
У крынічнай журбе
Журыцца
Беларуская мова!

Слоў сузор'і
Ласкава крані —
Не пачуеш папроку, пярэкі.
Мове роднай маёй карані
Вымывалі
Славяншчыны рэкі.

Быццам дыхае глыбіня,
Толькі ўслухайся:
                    пушча,
                    пашча,
Пошапт шчэбету —
                    шпачаня.

Не бывае
Мовы прапашчай!
Я, Андрэй, прыкінуў:
Калі б,
Ці, па-руску кажучы,
                              если
Не варочаў ты слоўных глыб,
Ты абраў бы пасаду цеслі.

Воку востраму —
Востры склюд!
Прасмалілі б жывіцай трэскі.
Праступаюць вякі
Праз хлуд:
Чысціня нашых моў,

Як фрэскі.

...А лаўжоўе звязуць вазакі,
Толькі б полымя
Добра шугала!
Ты ж пісаў:
Віцебскія васількі
Захлынулі сінечай Шагала.

Іншаму апяваць зару б,
Іншы любіць
Жарству гравеек.
Ад разваг
Белавежы зруб,
Як і ў Мураме,
Муравее.

Не зглушыла свирели
Дрэль.
Антысвет
На прыгоды прыгодны.

Добры дзень,
Антыскептык Андрэй —
Рускай мовы вялікі прыгонны!

*1974*

## ВЁСКА

Не расшчодрыцца,
Не раздабухаецца —
Вёска скупая,
У ногі нікому не бухаецца,
Піцуе з відна да відна,
Вайна не вайна —
Веска не адступае,
Адступаць няма куды.
Прымакамі
Урадлівыя дні з праснакамі,
З прысмакамі.
Спрадвеку драўляная,
Як і дрэвы, ў зямлю ўрасла.
Жыве яна
З хлебадайнага рамяства.
Не да прыхарошвання,
Не да хараства!
У вёскі такая
Сялянская ўхватка:
І пралля, і ткалля,
Ратайка й салдатка.
Град бобам,
Пот — градам.
Травеюць грады.
Пакуль з горадам
Грані сціраюцца,
Прахопліваецца ўранні
Дацямна стараецца.

*1974*

## З ГАРЫ

Цяпер —
Ці ў радасці згары,
Ці счахні ад адчаю,
Адчуй адно:
Ідзеш з гары.
Твой смутак залачае...

Ужо заняўся веташок
На макаўцы віхрастай.
Забудзь стажок і муражок
І у сад чужы не шастай!

І сам сваім гадам
Гадзі,
Яны — як тыя госці.
А вёскі ўсё часцей,
Глядзі:
Пагосцішча,
Пагосце.

Яшчэ тваю сасну
Піла
Не кроіць на цалёўкі.
Узмах вясла,
Узмах крыла.
Чакае ўзмах рыдлёўкі...

Зняверцу-роспач пратуры:
Азёрна,
Борна,
Гойна!
Далёка бачыў на гары —
Ідзі з гары спакойна.

*1974*

## ІСНАСЦЬ

*Міколу Грынчыку*

У чым жа існасць існавання,
Суседства з існасцю — быцця,
Быцця свядомага — жыцця?

Здагадак чаўнакі снавалі,
Саткалі капу забыцця,
Каб захінуць ёй
Шлюбны ложак,
Вясельны і хаўтурны стол.
Сагрэлі ўзор давер валошак
І снег, што ўснежыў вечны дол.

Ці ўзважылі зямлі патайнасць
Рыдлёўкі даланя,
Лямеш?
Пакуль жывеш,
Датуль пытайся.
Пытаннем сутнасці жывеш...

*1975*

## ПАД ВЕЧНЫМІ СОСНАМІ

Мана вясновай гаманы
Не ашукае болей.
Спыніўся твой адлік зямны,
Перажагнаны болем.
Мой цень —
Працяг тваёй вярсты.
Не вечны ён таксама.
Цяпер мяне чакаеш ты,
А я старэю,
мама...

*1975*

* * *

Гатова ад веснавой красы
Сэрца жаўранкава разарвацца.
Безабаронна знікаюць лясы —
Даверу зялёнага рэзервацыі.

На бровы часу адчаю дах
Насоўваецца няўхільна.
Глушэюць вёскі,
А ў гарадах
Перанаселеныя магільнікі.

Ірвецца трос,
Што ад зор да рос.
Смех непадкуты
Даволі коўзаўся.
Папрок былы:
«Ці ты ў лесе рос?» —
Будзе гучаць як:
«Залётаўся ў космасе...»

*1975*

* * *

Замоўкне ён,
Замілавання дрозд,
І папярхнецца даўкаю журбою,
Калі ты сам адчуеш
Свой узрост,
Свой даўні доўг
Перад самім сабою.

І толькі
Клопату вясновы шпак
Ласкава дасць табе
Адчуць да рэшты
Пяшчоты прысмак
І адчаю смак,
Пакуль ты
На вышэйшы сук дзярэшся...

*1975*

## ТЭСТ ПАЦВЕРДЗІЎСЯ

Як толькі пачаў я «конікаў пасці» —
Абапірацца на локці
без дапамогі мамы,
Быў апрабаваны ўпершыню ў жыцці
Сялянскім тэстам,
Старажытнейшым самым.

Мае заняткі і схільнасці
Былі праверany
Без асаблівых хітрыкаў так:
Перада мной паклалі
Кавалак паперыны
І толькі што выцягнуты
з катла бурак.

Да чаго пацягнецца ў малога рука,
Лёсам такім будзе ён залучоны:
Араты, сейбіт —
Да бурака,
Да паперыны —
Чалавек пісьменны, вучоны...

Я да бурака пацягнуўся,
Паразважаўшы крыху,
І распагодзіўся бацька ў паглядзе.
Ён мне паказваў,
Як мужык атрасае саху
І як барсук дзяцей сваіх гладзіць...

Пацвердзіўся тэст:
З відна да цямна
Ару я даволі
І сею ўволю:
Насенне чорнае,
Белае поле.
Што родзіць не густа —
Мая віна!

*1975*

* * *

Рукі заломвалі скразнякі.
Слухаў я,
Цішы палоннік,
Бяссоннік:
Плакалі ў ціхую ноч цягнікі.
Білася кропля
Аб падакошіік.

Вочы світалі твае нада мной.
Пальцы спагады перапляліся.
Трызнілі д'яблы даверу маной,
Шалу анёлы стаіліся ў высі.

Ласка твая,
Як праз пальцы ручай:
То апячэ, то сцюдзёна заные.
Не прыручыць іх,
Як ні прыручай,
Дзве недаткнёнкі —
Дзве дзічкі лясныя.

Ціша хмурынкай найшла праліўной.
Неба спрыяла нейкім там вегам.
Пахла адлегласць
Адлегай, вясной.
Снежань не мог
Адкупіцца снегам.

Прэч асцярога пайшла нацянькі.
Золак займаўся —
Адчаю паклоннік.
Вылі ў працяглую ноч
Цягнікі.
Білася кропля
Аб падаконнік...

*1975*

* * *

*Печаль моя светла.*
А. С. Пушкін

Жытло маёй душы
Заселена табою,
Святло маёй тугі
Зацеплена табой.
Святла не патушы,
Бо ўцёмначы абое
Абралі шлях даўгі
З адвечнай варажбой.

Настрою б не ўрачы
Твайго, нібы прыбою,—
Каб згода не сплыла,
Як па вадзе кругі.
Світае мне ўначы,
Я высветлен табою.
Не пакідай жытла,
Святло маёй тугі...

*1975*

* * *

Нам перадаць імкнецца час
Усе свае прыкметы,
Пакуль пад сонцам
Круціць пас
Ганчарны круг планеты.

*1976*

## АРГАНАЎТЫ

Плылі спрадвеку пехатою.
Пагляды лашчыла руно,
Жаданае і залатое —
Рупела рунь...

Сахі стырно
Трымалі моцна.
Заплывалі
За вечаровы небазвон.
Люлялі арганаўтаў
Хвалі
Перастаялых баразён.

Карэц каравай даланёю
Трымалі
Працы каралі.
Рабілі з небам іх раднёю
Крутыя крылы араллі.

У полі сеялася заўтра.
Кляліся небу перуном
Ушацкіх гоняў арганаўты,
Зямля рунела ім
Руном.

*1976*

## МАЛЕННЕ ДА ТВАЙГО ХАЛАЦІКА

Дзе зор,
Дзе радзімак галактыка?
Малю ў вечаровым запале,
Каб гузікі ўсе з халаціка,
Як знічкі,
З твайго апалі.

Вяселле ў нас паркалёвае.
Хай іншым —
Нуда залатога!
Тугу на зямлі ўсталёўвае
Вянчальнай сукенкі тога.

Як досвітак,
Пеўнік хахлаценькі,
Клапоты абудзіць гарласта;
Хай гузікі на халаціку
Узыдуць
І густа,
І часта!

*1976*

* * *

Прагінаецца мост
Памяці ледзяны:
Быццам вершыць
                    кругі
                              апрамецця,
Мой узрост
Паўтарае гады вайны —
Сорак першы,
                    сорак другі,
                              сорак трэці.
Пераможны застаць —
Сорак пяты! —
Хачу.
Недалёка мой
Сорак чацвёрты, мінны.
Я дарэмна крычу
Часу, як сурмачу,
Каб мае не будзіў
Прыпаміны.
За сябе я цяпер
Ці за бацьку жыву?
Трыццаць пяць яго
У пушчы блакаднай.
Час заўчасна таму
Снежыць мне галаву.
Бацькаў боль —
Ён са мной блукае.
Дзе адстану ад вашай,
Гады,
Чарады?
Даляцець бы
Да шасцідзесятых, раскутых!
Быццам порах бяздымны,
Туман малады.
І штыкуюць
Пражэктары
                    смутак.

*1977*

## РЭКІ МАЁЙ ЗЯМЛІ

Не ўцякаюць з зямель, якія спакон
Яшчэ ручаінамі імі асвоены,
Дзе разгалінаваліся,
Непадуладныя ліху,
Не наравяць памяняць імён
І веры паганскай сваёй яны.
Застаюцца да апошняга ўздыху —
Да перасыху
Балтамі ці славянамі,
То рахманымі,
То раззлаванымі.
У вірах затаіўшы жаль,
Напамінаюць забыўлівым рэкі,
Што па іх ляжаў
Шлях «з вараг у грэкі».

Ім астабрыдлі
Без меры
Іхныя злыдні:
Заклятыя
Місіянеры
Меліяратары,
Што маюць падчас
Звіліну-думку —
І тую прамую — адну,
Таму, няйначай,
Схільны яны
Рэкі ўсе ўбачыць
Канавамі, выцягнутымі ў струну.
З прынцыпу простага,
Нібы да патопу яшчэ мелі рацыю
Апосталы
Меліярацыі.

Ды свой характар
У каранёў узялі
Рэкі маёй зямлі.

Як іх пі спрамляюць,
Упарта — паганцы —

Пятляюць,
Кружляюць
І выгінаюцца!

*1977*

## МАЙСТРА

*Арлену Кашкурэвічу*

Не мае права майстра быць шматслоўным,
Сам за сябе сказаць павінен плён.
З ім думка аб галоўным — і пяўлоўным —
Бяссонная, ідзе да схілу дзён.
Адносіць час удачу хісткім чоўнам,
Ледзь бераг мэты ў туманах відзён,
Ды празарэнне променем раптоўным —
І паратоўным — высветліць адхон.

Панура горбіцца адчаю строма,
І лашчыцца дагодлівая стома,
І цягне плыткія далоні плёс.
Не задаволена сабою праца.
Але абрысы набывае лёс —
І пачынае зноў на радасць брацца...

*1978*

**ПАМЯЦЬ БОСЫХ НОГ**

Ёсць памяць босых ног,
І ўеліся у яе
З ракі жыцця трыснёг
І жвір, што стому п'е,
Сцяжын перапалох
І ўпартасці жарства.

Парог
З усіх дарог
Сталіцай харaства
Ад першых крокаў стаў
Для босых хадакоў,
Не шкадаваў атаў
Спадманны луг вякоў.

Трыпутніку далонь
Гаіла боль бяды,
Шчымлівасці агонь
Бярог падзей сляды.

Хай памяць босых ног
Не страціцца нідзе
І на чужы парог
Цябе не завядзе...

*1978*

## ВЯРТАННЕ НА КРУГІ СВАЕ

### I

Сюды са спазненнем прыходзяць
Аўтобусы і анекдоты,
Тут рады выпіць любой нагодзе,
Чый ты і хто ты,
Тут пра цябе дакладна вядома:
Ты дома...

Задумаўся ўскрусе
І памаўчы ў тужбе.
Ты ўгору цягнуўся,
А дрэвы перараслі цябе.

Ты імкнуўся далёка,
Было дарог табе мала,—
А сцежка, якую вартуе блёкат,
Цябе перагнала.

Ты розум свой гартаваў
На дапытным агні
Пад скляпеннямі,
Столямі,
Пад застрэшшамі,
А роднае неба — зірні!—
Мудрэйшае.

Падаваўся ты ў шлях даўгі
Малады.
Як тыя стагі, з тугі
Пасівелі твае гады.
Адно яшчэ журба маладая
Ахвотна з табой выглядае
Свае маладыя сляды...

### II

Мамы няма — шчырасці не стае,
Мамы няма — дні мае без яе
Суровыя, як астрогі.
Я мяняю дарогі

І цягнікі.
А раптам дарога нейкая,
Цягнік які
Некалі высненымі дымамі
Усё ж прывядуць да мамы...

А шумеў мне спагады лес,
Ды
Яго скарчавалі гадоў ратаі.
Раней я любіў ад'езды,
Зараз люблю — вяртанні.
Варушыцца недзе надзеі карэнне:
Мама сустрэне...

*1978, Ушача*

**СВЯТЛО**
**(Ушацкае паданне)**

Яны сядзелі каля агню,
Кармілі галодны агонь ламаччам.
І сын раптоўна схапіў галаўню,
І торкнуў, гарачую,
Ў вочы матчыны.

Усе былі ў першабытным стане:
Агонь,
І людзі,
І ноч у сутане.

Агонь ні на што не зважаў,
Балюючы,
Ды стала светла аслеплай начы
Ад крыку матчынага балючага:
— Сыночак, рукі не апячы!..

*1978*

## ІЛОНЕ

Мая адзіная радня,
У цішы, гамане,
Дачушка, ты расцеш штодня
Трывогай ува мне.

А роспач за душу скрабе:
Каб добра ўсё было,
Каб не зірнула на цябе
Халодным вокам зло;
Ні крык, ні крылы наслання
Каб не ўраклі і ў сне.
Дачушка, ты расцеш штодня
Трывогай ува мне.

Будзь варта сонца, вышыні,
І даражы вясной,
І роднай глебе карані
Ты давярай адной.

Хай ліха й цень твой абміне,
Жыццём шумі ў жыцці.
Маю трывогу і мяле,
Дачка, перарасці!

*1978*

## ДЗЯКУЙ!

Тым застоллям,
Тым пасцелям —
Дзякуй,
Дзе я гасцяваў,
Дзе начаваў,
Дзе сябе, як дома, адчуваў,
Дзе была падушка дужа мяккай.

Дзякуй тым стагам
І тым стажынкам,
Што хмялілі ночы мурагом,
Дзякуй тым снягам
І тым сняжынкам,
Ад якіх святлела ўсё кругом.

Дзякуй
Пакравам,
Дзядам,
Калядам,
Што чакалі з даўнасці мяне,
Ручнікам,
Ад сіверу каляным,
Чэснай крыўдзе
І нязлой мане.
Дзякуй той,
Ад ямінваспаватай,
Сцежцы спорнай у сваёй хадзе,
Што на гэты свет
Вяла з павагай
І на топ
Спакойна павядзе.

Не была вада з крыніцы даўкай.
Доля думкі вольнымі пасла.
Загадзя
Зямлі
Кажу я дзякуй,
Баючыся не наспець пасля…

*1977*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Рыгор Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 г. У вёсцы Гарадок на Ушаччыне. У 1959 г. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у газеце «Советская Белоруссия», часопісах «Бярозка», «Беларусь», «Полымя», у выдавецтве «Беларусь», зараз — у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Першы верш надрукаваў у 1954 г. у газеце «Чырвоная змена».

Нізка вершаў «На зямлі цаліннай», якую паэт прывёз з уборкі першага цаліннага ўраджаю, была адзначана сярэбраным медалём VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве (1957 г.).

Выйшлі кнігі паэзіі Рыгора Барадуліна: «Маладзік над стэпам» (1959), «Рунець, красавацць, налівацца!» (1961), «Нагбом». (1963), «Неруш» (1966), «Адам і Ева» (1968), «Лінія перамены дат» (1969), «Вяртанне ў першы снег» (1972), «Рум» (1974), «Балада Брэсцкай крэпасці» (1975), «Свята пчалы» (1975), «Абсяг» (1978); зборнікі гумару: «Дойны конь» (1965), «Станцыя кальцавання» (1968), «Няўрокам кажучы» (шаржы Міхася Лісоўскага) (1971), «Журавінка» (1973), «Прыпамсі...» (1977); кніжкі для дзяцей: «Мех шэрых, мех белых» (1963), «Красавік» (1965), «Экзамен» (1968), «Раскідач» (1969), «Ай! Не буду! Не хачу!» (1971), «Суровая вымова» (1976), «Што было б тады б, калі б?» (1977).

У перакладзе на рускую мову ў Маскве выйшлі зборнікі: «Целиноград» (1961), «Аист на крыше» (1966), «Избранная лирика» (1969), «Небо твоих очей» (1976), «Озеро у горизонта» (1979), на латышскай «Siena laiks » (1967), на кіргізскай «Азгыргыч» (1974), на эстонскай «Kas joehobu haigutab?» (1976), на ўкраінскай «Свято бджоли» (1978).

Вершы паэта перакладаліся на англійскую, нямецкую, іспанскую, польскую, балгарскую і на мовы народаў СССР.

Рыгор Барадулін пераклаў на беларускую мову п'есу Яна Райніса «Ветрык, вей!», кнігу выбранай лірыкі Федэрыка Гарсія Лоркі «Блакітны звон Гранады», «Выбранае» Сяргея Ясеніна (разам з Аркадзем Куляшовым), паасобныя творы Дж. Байрана, В. Шэкспіра, А. Міцкевіча, А. Пушкіна, М. Някрасава, Ф. Цютчава, Ул. Бранеўскага, А. Туманяна, А. Ісаакяна, П. Нэруды, Н. Гільена, Б. Брэхта, С. Нерыс, А. Вазнясенскага, Я. Еўтушэнкі, Б. Ахмадулінай, сучасных паэтаў Украіны, Латвіі, Малдавіі, Грузіі, Узбекістана, Польшчы, Венгрыі, Балгарыі.

Рыгор Барадулін лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны».

**ЗМЕСТ**

**Барадулін Р.**

Белая яблыня грому: Выбраныя старонкі лірыкі. 1954 —1978.— Мн.: Маст, літ., 1979.— 176 с., іл. (Б-ка беларускай паэзіі).

У 1959 годзе ў выпускніка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна Рыгора Барадуліна выйшаў зборнік вершаў «Маладзік над стэпам».

«Белая яблыня грому» — як бы падсумоўвае творчы набытак паэта за 25 гадоў яго працы ў паэзіі.

Б 70403—003 / М 302(05) — 79 118—79 Бел 2